АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ



# ЯК ДЗЕЦІ ПАМАГАЛІ БУДАВАЦЬ САМАЛЁТ

Малюнкі Е. Лапіна.



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

Ці было калі на сьвеце,
каб малыя выйшлі дзеці
дружна так, — дапамагаць
край саветаў будаваць?
Колькі ўжо прайшло сталецьцяў,
ня было нідзе на сьвеце.
Працавалі многа надта,
але толькі на багатых...
Надышла пара другая —
ўсім працоўным скарбы краю!
І працоўныя адразу
на работу выйшлі разам...
Загулі-былі машыны
гучна так, бесьперапынна.
І, як волат, на руінах
вырастала моц краіны!
Нашы фабрыкі, заводы
ўсім паном недаспадобы.
І яны, чым толькі могуць,
хочуць зьнішчыць нам дарогу,
ў сьвет вялікі, дзе рабочых
уціскаюць днём і ноччу.
Сёньня ў школе будзе сход.
Вольны дзень.. І як на зьлёт—
Старыкі і гуртам моладзь
Сабіраліся у школу.

Устаў старшыня,
як сабраўся народ,
і прамову пачаў ён такую:
— Таварышы!
Наша краіна
нястрымна,
штогод,
долю куе залатую.
Заводы будуем,
і ставім масты.
Сушым балотаў абшары.
Але вось буржуі
супроць беднаты,
хочуць зьністожыць
пажарам!?
Таму і сабралі мы
гэты вось сход,—
ёсьць прапанова такая:
каб мы памаглі
збудаваць самалёт
для абароны края!
—Правільна! Правільна!
Крыкнуў сход!
Паможам усе
збудаваць самалёт!
І мы дапаможам,—
крычыць дзетвара:
—На крыльлі сталёвыя
зможам сабраць!

Хто што мог—
усе давалі:
хто ячмень,
а хто авёс.
І казалі:
будзе лётаць
аж да сонца,
да нябёс!
Піонэры
ўсім атрадам
выйшлі ў поле
палоць грады.
Працавалі,
аж да поту,
а работы
шмат было.
Так стараньнем
зарабілі
самалёту на крыло.

*

Збор ішоў...
І незадоўга
напісалі на завод:
„Калі ласка,
вось вам грошы,
пабудуйце самалёт“.

Роўна-роўненька праз год
прыляцеў той самалёт,
так чаканы
так жаданы
пролетарскі самалёт!

Прывітаць лятуць
з уздымам,
гулам неўгамонным:
О, крылатая машына
наша абарона!..

Распачаўся сход... Сяляне
прывіталі самалёт.
Шчыра-ўдзячны за вітаньне
У адказ казаў пілёт:

—„Кіньце працу адзіночна,
аб'яднайцеся ў колгас.
На падмогу шмат рабочых
пасылаюцца да вас.

Хто нас здужыць?
Хто асіліць?
Хто саб'е з дарогі?!
Пролетарскай нашай сіле
песьня перамогі!

На вітаньне ўсе,—ў адказ
заклікаю у колгас!“

Зацягнуўся мітынг-сход.
Доўга гаварылі.
Лазяць дзеці ў самалёт,
вяжуцца на крыльлі.

Гэтак кожнаму ахвота
паляцець—сваё-ж яно!
Кожны хоча стаць пілётам,
кожны думае адно.

Сьмельчакі адразу селі,
чатырох узяў пілёт.
Загудзеў-зайграў пропэлер
і... падняўся самалёт!..

*

О, ляці, наш самалёт,
усё вышэй,
вышэй,
што год!

КАНЕЦ

